


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 28(38) • 28 ЖНІЎНЯ — 3 ВЕРАСНЯ 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

**НАДЗВЫЧАЙ** багатымі на палітычныя падзеі былі апошнія дні ў краіне і рэспубліцы. Пасля правалу антыканстытуцыйнага перавароту была сазвана нечарговая пятая сесія Вярхоўнага Савета БССР.

І вось прынімаецца рашэнне: аб'явіць палітычную і эканамічную незалежнасць рэспублікі, надаць Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі статус канстытуцыйнага закона.

**НА ТОЙ** же сесіі прыняты і іншыя важныя рашэнні. Задаволена просьба старшыні беларускага парламента М. Дземянцея аб выхадзе на пенсію. Прынята пастанова аб пераўтварэнні саюзна-рэспубліканскіх міністэрства ўнутраных спраў і камітэта дзяржбяспекі Беларусі ў рэспубліканскія арганізацыі, гэта значыць, аб пераходзе іх у падпарадкаванне рэспубліканскай уладзе. Створана часовая камісія па ацэнцы дзеянняў ГКЧП на беларускай зямлі.

- **ПРЫНЯТА** таксама пастанова аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларусі і дэпартызацыі. Пракуратуры рэспублікі даручана правесці расследаванне дзейнасці партыйных органаў у час путчу. Памяшканні партыйных архіваў, сакрэтнага справаводства і ўрадавай сувязі вырашана ўзяць пад строгую ахову. «Пайшлі ўсялякія плёткі і нават распаўсюджваюцца па радыё, — заявіў лідэр БНФ З. Пазьняк,— што пачнецца шальмаванне былых камуністаў і г. д. Нічога падобнага не было і не будзе...» Абверг ён і правакацыйныя звесткі аб увядзенні ўсюды па загаду беларускай мовы.

**АБВАСТРЭННЕ** апошніх падзей супала з падрыхтоўкай Саюзнага дагавора. Узнікла неабходнасць юрыдычна аформіць дзяржаўную незалежнасць Беларусі ўслед за рэспублікамі Прыбалтыкі, Расіі, Украіны і іншых. Гэта можна зрабіць, калі будзе утвораны Саюз на новай аснове — не федэратыўнай дзяржавы, а садружнасці незалежных рэспублік са сваімі ўласнымі ўзброенымі сіламі, якія маглі б абараніць свой суверэнітэт. У сувязі з гэтым у Мінску ўжо распачаўся запіс добраахвотнікаў у нацыянальную гвардыю.

## НАРОД БЕЛАРУСІ НЕ МАЎЧАЎ



20 жніўня г. г. ва ўмовах надзвычайнага становішча, уведзенага ў краіне авантурыстамі, дэпутаты ад апазіцыі Вярхоўнага Савета БССР правялі сустрэчу з выбаршчыкамі, на якой рашуча асудзілі рэакцыянераў.
НА ЗДЫМКУ: выступае народны дэпутат БССР лідэр БНФ Зянон ПАЗЬНЯК.

*Пошта рэдактара*

# ТЫМ НЕ МЕНШ: ДАВАЙЦЕ РАЗБЯРОМСЯ ПА-ЛЮДСКУ!

**Гэты артыкул быў засланы ў набор на другі дзень ваенна-бальшавіцкага дзяржаўнага перавароту. Яшчэ ніхто не ведаў, што народу ўдасца спыніць злачынства ў такі кароткі тэрмін.**

***Зноў у рэдакцыйнай пошце трапіўся ліст, аўтар якога наўмысна не ўказаў свайго прозвішча і адрасу.***

ХОЦЬ мы папярэджвалі неаднаразова: пры жаданні газетную публікацыю можна падпісваць і псеўданімам, але звесткі пра аўтара трэба, каб у рэдакцыі былі. Тым не менш, і за гэтым ананімным лістом — жывы чалавек, з ягонымі характарам, поглядамі і... выхаваннем. Нельга сказаць, што ён зусім сябе не абазначыў. Праўда, адмыслова: «Сын Белоруссии и отечества всего (?) без БНФ» — так падпісаўся. Але незразумела: ў піку «Нашаму слову», да якога выказаў пагарду, ці яшчэ па нейкай прычыне напісаў ён ліст па-руску? Бо палічыў жа неабходным напачатку адрэкамендавацца: «Я, белорус, владею полностью (?) своей родной речью»?

Будзем лічыць, што «полностью» ананімны аўтар ліста валодае, магчыма, мовай беларускай. Бо ў тэксце, напісаным ім на «великом и могучем», зашмат якіх хочаш «неполностей» — і з боку правапісу, і стылёвых.

Але пакінем нашаму аўтару самаўпэўненасць. Магчыма, гэта яму для нечага патрэбна. Хацелася б звярнуць ягоную ўвагу галоўным чынам на іншае — на тэрміновую неабходнасць чалавечнасці, хрысціянскасці, можна яшчэ дадаць, узаемаадносін грамадзян нашай беднай Айчыны. «Если такие смелые и демократические, напечатайте это»,— пад'юджваеце вы, шаноўны, на заканчэнне. Вось табе і маеш! Дык хоць бы назваліся тады, калі прэтэндуеце на публікацыю сваіх перакананняў! Бо чытачы ж захочуць ведаць: хто канкрэтна гэтак думае пра нейкія грамадскія з'явы, які жыццёвы вопыт, якая працоўная біяграфія дазваляюць такім тонам і такімі словамі пісаць у газету, каб давесці свае погляды людзям?

Паўтару: пра граматычныя і стылёвыя памылкі гаварыць не будзем. У рэдакцыі ёсць рэдактары, карэктары — дапамогуць. Урэшце — будзем разам вучыцца дасканала ды граматна валодаць роднай мовай. Цяпер, каб выжыць, усяму трэба паскорана вучыцца — і правапісу, і гаспадарлівасці. І, безумоўна, дэмакратызму. А вось доказнасць, фактычная дакладнасць — ужо асабістая марка аўтара, ягоны грамадзянскі абавязак. А што ў вас?

«Вы продали Родину, вы обращаетесь да «суайчыннікаў за межамі Белорусії»,— фармулюеце вы абвінавачанне, па якому яшчэ зусім нядаўна сама менш «свяціў» доўгатэрміновы ГУЛАГ (гэтая абрэвіятура не перакладаецца ні на беларускую, ні на якія іншыя мовы свету). Бо пакінулі Айчыну, лічыце вы, адны «недобитые фашистские прихвостни, уголовники и всякая «контра». Быццам не было некалькі хваляў беларускай эміграцыі. Гэта адно. Але галоўнае ў іншым. У тым, што вы прагнеце ўсіх абавязкова «дабіць». Хутчэй за ўсё — нават без суда і следства. Але ж нават «прыхвостень», няхай сабе і фашыстоўскае мярзоты,— гэта не тое ж самае, што «уголовник», а ўжо наконт «контры» дык і зусім цёмны бор з пералескамі. У мяне засталіся асабістыя рахункі да гітлераўцаў і іх паслугачоў, але час паказаў: бязлітасна ставіцца трэба толькі да забойцаў, астатнім неабходна даць шанс, нават вялікім грэшнікам. Урэшце, вельмі сумняваюся, што вы неяк пратэставалі супраць дзіўнай гуманнасці нашых улад да Лазара Кагановіча. А ў гэтага ж «сталінскага сокала», на сумленні якога сотні тысяч, а то і мільёны забітых і замучаных непавінных людзей, у тым ліку беларусаў, нават волас з галавы не зляцеў па вердыкту нашай разборлівай Феміды. Жыў ды пажываў сабе ў Маскве, нават неблагую пенсію меў і дачу. Затое Валерыя Сядова можна кінуць за краты толькі за спробу пакласці ля помніка Леніну зэкаўскую ватоўку.

Не пратэстуеце вы і супраць таго, што ў беларускіх эмігрантаў нават нашы рэспубліканскія афіцыйныя высокапастаўленыя прадстаўнікі просяць грошы на Чарнобыль. Ды яшчэ і крыўдзяцца, здараецца, што за акіянам даюць не столькі, колькі нам хацелася б. Быццам гэта эмігранты і вінаватыя ў нашых катастрафічных поспехах у будаўніцтве камунізму. Быццам яны і за мяжой апынуліся, каб не для ўласных жыццёвых патрэб, а будаўнікам светлай будучыні для ўсяго пралетарскага чалавецтва адлаваць свае долары, якія ў іх замест лісця на дрэвах растуць. Значыць, з гэтай нагоды афіцыйным прадстаўнікам кантактаваць трэба, а вось простым беларускім грамадзянам забараняецца, бо гэта аказваецца, як вы напісалі,— «продавать Родину». Логіка? А яна, відаць, з тых часоў, калі Молатаў з Рыбентропам абдымаўся ды цалаваўся, а Сталін за здароўе «друга» Гітлера чарку ўзнімаў.

Між тым практычна ўсе, хто адказаў на нашу анкету (што паказаў роспыт, паведамім пазней, бо адказы яшчэ паступаюць і цяпер), выказваюць пажаданне, каб пра беларускае замежжа газета пісала значна больш. Прычым, так выказваюцца людзі розных узростаў (ад 15-ці гадоў да амаль 80-ці) і самых розных прафесій — навукоўцы, рабочыя, настаўнікі, інжынерна-тэхнічныя работнікі, эканамісты і адстаўнікі-вайскоўцы. Хочуць ведаць, як нашы эмігранты вядуць гаспадарку, як працуюць, як адпачываюць,

*(Заканчэнне на 2-й стар.).*

# ПАЧЫН ЁСЦЬ

Не трэба нікому тлумачыць, што веданне замежных моў — сродак далучэння народа да здабыткаў цывілізаванага свету. Мы, беларусы, доўгі час былі практычна пазбаўлены магчымасці вучыцца замежным мовам праз пасрэдніцтва сваёй і паўнацэнна прапагандаваць родную мову ў шырокім свеце. Адбывалася гэта таму, што да нядаўняга часу ў нас не было іншамоўна-беларускіх ды беларуска-іншамоўных слоўнікаў, а таксама падручнікаў замежных моў на базе беларускай. Гэта спрыяла зняважлівым адносінам да роднай мовы яшчэ ў сярэдняй школе. Па сённяшні дзень замежная мова выкладаецца ў нас паралельна з рускай не толькі ў рускамоўных, але і ў беларускамоўных школах. Тлумачыцца ўсё звычайна тым, што няма падручнікаў на роднай мове. Дык адкуль жа ім быць, калі нашыя беларускія чыноўнікі заўсёды глядзелі ў рот Маскве? Тым жа нешматлікім нашым энтузіястам, якія ўсё ж самастойна браліся за нялёгкую працу па складанні нямецка-беларускага або англа-беларускага слоўнікаў, гэтыя чыноўнікі казалі: «А кому это нужно? Кто будет покупать?»

Ды вось, нарэшце, адбыліся зрухі. У кнігарнях упершыню з'явіліся прыгожа афармленыя трохмоўныя нямецка-беларуска-рускі і англа-беларуска-рускі слоўнікі. Іх выхад з друку, безумоўна, падзея ў культурным жыцці нашага народа. Беларуская мова пачынае выходзіць у свет з Беларусі, а не толькі дзякуючы намаганням тых нашых суайчыннікаў, якія даўно жывуць у Еўропе і Амерыцы (варта згадаць пра вядомы на Захадзе — але не ў нас — падручнік беларускай мовы на базе англійскай).

Названыя «Нямецка-беларуска-рускі слоўнік» (пад рэдакцыяй У. Марцінеўскага і П. Садоўскага) і «Англа-беларуска-рускі слоўнік» (пад рэдакцыяй Т. Сушы і А. Шчукі) на паліцах кнігарняў не заляжаліся, а, наадварот, раскуплены з вялікай хуткасцю. Так што выданне «Нямецка-беларуска-рускага слоўніка» крыху больш як праз год прыйшлося паўтарыць. У сённяшняй нашай сітуацыі ўсенароднага бязмоўя ці «паўмоўя» такія слоўнікі могуць дапамагчы не толькі вывучаць замежную мову, але і ўспамінаць сваю, беларускую.

Яшчэ зусім нядаўна я выкладала нямецкую мову ў адной з наваполацкіх школ. Амаль усе мае вучні набылі тады «Нямецка-беларускія слоўнікі». І з якой жа цікавасцю яны разглядвалі гэтыя прыгожыя кніжачкі, з якім задавальненнем шукалі менавіта беларускія адпаведнікі да нямецкіх слоў! Упэўнена, шмат каму з іх захацелася авалодаць нямецкай мовай як мага хутчэй, ну а я, у сваю чаргу, імкнулася паказаць сваім вучням, якая ж прыгожая і меладычная наша ўласная мова. І падумалася тады: вось дзе можа атрымаць новыя імпульсы адраджэнне роднай мовы! Хочацца падзякаваць аўтарам, якія рыхтавалі згаданыя слоўнікі,— выкладчыкам Мінскага дзяржаўнага педінстытута замежных моў Л. Брагоўскай, Н. Любчэўскай, В. Рудакоўскаму, Г. Шчуцкай, А. Таболіч, В. Федасеевай, а таксама названым вышэй рэдактарам за іх першапраходніцкую працу.

Да месца будзе сказаць і колькі слоў пра станоўчыя якасці слоўнікаў. Найперш адзначым тое, што яны маюць перавагу над іншымі, бо ў аснове іх стварэння ляжыць такі прынцып адбору лексікі, згодна з якім, як пішуць у прадмове аўтары, робіцца магчымым «уключыць вялікую колькасць слоў, якія ў іншых слоўніках такога аб'ёму звычайна адсутнічаюць». Таму, нягледзячы на малы аб'ём слоўнікаў (каля 7000 слоў), з іх дапамогай можна перакладаць нескладаныя тэксты — газетныя публікацыі, творы мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры з нямецкай і англійскай моў на беларускую. Разам з тым трохмоўныя слоўнікі будуць своечасовай дапамогай тым людзям, якія не ставяць сваёй мэтай дасканалае вывучэнне той ці іншай замежнай мовы, а ў канкрэтным выпадку маюць патрэбу перакласці нейкі допіс, артыкул, інструкцыю.

Мне вядома таксама, што ёсць спадзяванні і на з'яўленне больш аб'ёмных і грунтоўных слоўнікаў: калектыў лінгвістаў і выкладчыкаў на чале з тым жа У. Марцінеўскім рыхтуе «Нямецка-беларускі слоўнік» і «Беларуска-нямецкі слоўнік» (кожны мае прыкладна па 30 тысяч артыкулаў), у ЗША групай беларусаў-эмігрантаў складзены 60-тысячны «Англа-беларускі слоўнік», а настаўнік адной з сярэдніх школ Светлагорскага раёна Мікола Бусел рыхтуе да друку рукапіс «Іспанска-беларускага слоўніка» на 23 тысячы слоўнікавых артыкулаў... Думаю, Бацькаўшчына будзе ўдзячная і названым тут людзям, і тым, хто далучыцца да іх справы.

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**



Ні за гарамі ды доламі, ні на славутых Кіжах, а ў вёсцы Куляшоўка Клімавіцкага раёна стаіць гэта цэркаўка. Узвялі яе мясцовыя майстры, і многія гады неслі сюды іх землякі свае радасці і гора. А потым зарасла дарога да храма. Псуюцца яго сцены, гіне прыгажосць. Але, магчыма, яшчэ не позна яе ўратаваць? На нашай жа зямлі засталося не шмат такіх вось шэдэўраў драўлянага дойлідства. Свайго, роднага.

Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА (БЕЛТА).

*Чыталі?*

## «Наша ніва»

**Выйшаў другі нумар «Нашай нівы», які адкрываецца успамінамі Вітаўта Кіпеля пра жыццё ў Мінску ў ваенны час і пад нямецкай акупацыяй. Лявон Луцкевіч працягвае знаёміць чытачоў з беларускай Вільняй. У першым нумары «НН» была Пятніцкая царква. На гэты раз — Віленская вуліца.**

**Друкуецца артыкул Алеся Крыштаповіча «Хрысціянія — краіна, дзе перамог камунізм». Чытаючы «НН», можна даведацца, «пра што аднойчы Іван Луцкевіч сказаў Зміцеру Жылуновічу». З літаратурных твораў змешчаны «Сатанінскія вершы» Баляслава Лесьмяна, апавяданне «Стары дом» Алега Мінкіна і «Занатоўкі мастака» Адама Глобуса.**

**У «НН» чытачы могуць знайсці шмат цікавай і карыснай інфармацыі па гісторыі Беларусі, а таксама пра сучаснасць.**

**У лісце ў рэдакцыю «НН» Валянцін Грыцкевіч з Ленінграда, аналізуючы першы нумар, піша: «Па-першае, узрадаваў высокі інтэлектуальны ўзровень нумару. Так трымаць, дзецюкі! Урэшце, меў у руках антыправінцыйнае, эўрапейскага ўзроўню беларускае друкаванае слова. Толькі такім шляхам мы зноў трапім на пракладзеную Луцкевічамі, Ластоўскім, Багдановічам дарогу, з якой збіліся дзякуючы наўмыснай плебеізацыі нашай культуры ў падсавецкі час. Па-другое, цікавы змест нумару. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы ўзросту аўтараў, іхняй маладосці. Няма замшэласці, якая, на жаль, з'яўляецца прыкметай старэйшага пакалення».**

**Гэтакія ж словы можна сказаць і пра другі нумар «Нашай нівы». І не дзіўна, калі нехта з супрацоўнікаў рэдакцыі, якія сядзяць у Мінску і выдаюць шэрыя, нецікавыя газеты і часопісы, падумае: «Вось каб мы паехалі ў Вільню, дык і мы б выдавалі належнага ўзроўню газету ці часопіс...» Але, відаць, каб выдаваць нешта цікавае — ад месца знаходжання рэдакцыі гэта не залежыць.**

**В. Ш.**

*Культура мовы*

# Увага: формы ступеняў параўнання!

***Выкарыстанне прыметнікаў і прыслоўяў у формах вышэйшай і найвышэйшай ступеняў параўнання патрабуе пільнай увагі, бо тут нярэдка змешваюцца нормы дзвюх моваў — беларускай і рускай.***

НАПРЫКЛАД, па радыё часта можна пачуць: *У бліжэйшыя* (а часам нават: у *бліжайшыя*) *суткі надвор'е істотна не зменіцца*, дзе форма прыметніка *бліжэйшыя (бліжайшыя)* выкарыстана няправільна, бо *бліжэйшыя* — форма вышэйшай ступені і яна абазначае не самую высокую ступень прыметы, а толькі некаторае перавышэнне яе ў адным «прадмеце» ўпоравень з другім. Гэта ў рускай мове форма *ближайший* абазначае самую высокую ступень прыметы. *В ближайшие сутки погода не изменится.* Па-беларуску тут трэба сказаць інакш. Але разгледзім гэтыя формы падрабязна, з характарыстыкай іх спецыфікі ў кожнай з моваў.

Формы ступеняў параўнання маюць толькі якасныя прыметнікі і прыслоўі. Яны бываюць простыя — аднаслоўныя (сінтэтычныя) і так званыя складаныя — двухслоўныя (аналітычныя). Аналітычныя формы складаюцца з двух кампанентаў: якаснага прыметніка (прыслоўя) і так званага дапаможнага кампанента — слова са значэннем меры, ступені. Такім дапаможным кампанентам для *вышэйшай* ступені з'яўляецца слова *больш (болей)* ці *менш (меней): больш (менш) дакладны, менш (больш) доказна абгрунтоўваў, болей (больш) высокі ўзровень, меней (менш) падрыхтаваны.* Пры ўтварэнні аналітычнай формы вышэйшай ступені параўнання якасны прыметнік ці прыслоўе павінны мець форму звычайнай (нулявой) ступені, бо тут на вышэйшую ступень прыметы паказвае слова *больш (болей)* ці *менш (меней): больш (менш) дасканалы пераклад, больш (менш) хутка выканаў.* У друку, асабліва ў вершаваных тэкстах, у вусным маўленні сталі выкарыстоўвацца няправільныя формы вышэйшай ступені, у якіх дапаможны кампанент далучаецца да прыметніка ці прыслоўя не ў форме звычайнай, а ў форме вышэйшай ступені: *больш лягчэйшая задача, больш павальней чытаў.* Тут, як кажуць, масла масленае, бо адзін кампанент дубліруе другі ў семантыцы: значэнне вышэйшай ступені перадаецца двойчы — і формай прыметніка (прыслоўя), і дапаможным кампанентам. Сёй-той можа сказаць, што гэтым самым узмацняецца прымета. Але для такога ўзмацнення можна выкарыстаць часціцы *яшчэ* ці *куды: зрабіў гэта яшчэ (куды) хутчэй за яго; яшчэ (куды) болей густая паднялася збажына, чым летась.*

Найвышэйшая ступень параўнання таксама мае прыметнік (прыслоўе) у форме звычайнай (нулявой) ступені. Да гэтай формы далучаецца дапаможны кампанент — займеннікавае слова *самы* ці прыслоўнае *больш (болей)* або *менш (меней): самы высокі, найбольш высокі, найбольш эмацыянальна чытаў.* Тут таксама няма патрэбы ставіць прыметнік (прыслоўе) у іншай, чым звычайная, форме, бо значэнне найвышэйшай ступені прыметы перадаецца дапаможным кампанентам, а прыметнік (прыслоўе) называе толькі саму прымету (якасць): *найбольш спрактыкаваны педагог, самы спрактыкаваны майстар, найбольш выразна выяўлена якасць.* Ненарматыўнымі трэба прызнаць канструкцыі найвышэйшай ступені, калі прыметнік (прыслоўе) ставяцца ў форме вышэйшай ступені: *самы даражэйшы, найбольш грунтоўней адказваў.*

Але найчасцей бачым (чуем) памылкі пры выкарыстанні аднаслоўных (сінтэтычных) формаў вышэйшай і найвышэйшай ступеняў параўнання.

Вышэйшая ступень параўнання прыметнікаў утвараецца ў беларускай мове з дапамогай націскнога суфікса *-ейш- (-эйш-): весялейшыя за нас людзі, цяжэйшая за тую задача.* У гутарковай мове зрэдку можна сустрэць і форму з суфіксам *-айш»*, але гэты суфікс заўсёды ненаціскны: *ніжайшы, вышайшы, шырайшы, бліжайшы.* Выкарыстанне яго ў націскной пазіцыі — парушэнне літаратурнай нормы. А такое даводзіцца чуць не так ужо і рэдка апошнім часам у перадачах радыё: *у бліжáйшы тыдзень, у цішáйшы час* і пад.

У недагледжаных тэкстах, найчасцей у перыядычных выданнях — шмат памылкова ўжытых формаў вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў з суфіксам *-ейш (-эйш):* іх бачым там, дзе павінна быць форма найвышэйшай ступені. Формы з суфіксам *-ейш (-эйш-)* па сваёй сутнасці не здатныя перадаць тое значэнне, якое маюць аналагічныя формы рускай мовы на *-ейший (-айший)*. Так, адпаведнікам рускай канструкцыі *ближайшая станция метро* не можа быць беларуская *бліжэйшая станцыя метро,* бо *бліжэйшая* — гэта толькі больш блізкая за нейкую іншую, а не за ўсе іншыя. *Ближайшая* — гэта самая блізкая, найбліжэйшая. Беларускай форме *бліжэйшая* адпавядае руская *ближе*. Параўн.: *Гэтая станцыя бліжэйшая за тую — Эта станция ближе той.* Такім чынам, формы з суфіксам *ейш- (-эйш-)* заканамерныя там, дзе ў рускай мове выкарыстоўваюцца прыметнікі з суфіксамі *-е, -ее (-ей): этот дом выше — гэты дом вышэйшы* (за іншы); *день был светлее — дзень быў святлейшы.* Асабліва засмечана ненарматыўнымі формамі з суфіксамі *-ейш- (-эйш-)* спартыўная і публіцыстычная лексіка: *майстар вышэйшага класа* (рус. *высшего*) замест *найвышэйшага класа; карацейшая адлегласць* (рус. *кратчайшее расстояние*) замест — *найкарацейшая; сустрэча на вышэйшым узроўні (высшем уровне)* замест — *на найвышэйшым узроўні*. Гэтыя ўсе канструкцыі — або штучна скалькаваныя, або жыўцом перанесеныя з рускай мовы, у нашай мове яны не маюць выразнага значэння, іх сэнс незразумелы, а пераклад рускага тэксту з імі — неадэкватны арыгіналу. Так, згаданы ўжо сказ *У бліжэйшыя (бліжайшыя) суткі надвор'е не зменіцца* беларускаю моваю трэба было перадаць: *У наступныя суткі надвор'е не зменіцца.* Бо што значыць *бліжэйшыя* суткі? Гэта ж бліжэйшыя за пэўныя згаданыя, а не самыя блізкія, не найбліжэйшыя, не наступныя.

**П. СЦЯЦКО,**
**доктар філалагічных навук, прафесар.**

*(Працяг будзе).*

